# СПРЭЧКІ АБ ПАЎНОЧНАЕ БАРНЕО

Незвычайна хутка знікае з паверхні нашай планеты каланіялізм. Не заўсёды аднак і не ўсюды барацьба заняволеных народаў за незалежнасць мае характар узброеных паўстанняў.

Здараецца і так, як, напрыклад, у Паўночным Барнео. Вось некалькі дзён таму назад Ніжэйшая палата Філіпінскага парламента заклікала ўрад да намаганняў, якія вярнулі б гэтую тэрыторыю. Як вядома, яна з'яўляецца зараз брытанскай калоніяй. Гэтыя звесткі былі ўспрыняты ў Лондане з вялікай заклапочанасцю. Калі б, менавіта, урад Філіпін дасягнуў сваёй мэты, дык Вялікабрытанія страціла б апошнюю вялікую калонію на Далёкім Усходзе. Не падабаюцца гэтыя дамаганні Філіпін таксама і Малайскай Рэспублікі. Будучы шчыльна звязанай з Вялікабрытаніяй, яна разлічвае на пэўныя карысці ў выпадку захавання англійскай уласнасці на Пацыфіку.

Як з гэтага бачым, ужо трох партнёраў цікавіцца лёсам Паўночнага Барнео. А неўзабаве пераканаемся, што гэта яшчэ не ўсе, якія прагным вокам глядзяць на гэты маляўнічы востраў. Спярша, аднак, аб прычынах спрэчак. Пачаткова ўсё было глупствам. Некалькі год пасля заканчэння другой сусветнай вайны спадчыннікі былога султана Сулу выцягнулі з сейфаў дагаворы, падпісаныя іх продкам з англічанамі. На іх аснове яны мелі атрымліваць пажыццёва сур'ёзныя грашовыя дапамогі. Аднак, здаецца, дагэтуль яны нічога не атрымалі, і вось справа ізноў апынулася на парадку дня.

Як вынікае з дакументаў, у 1877 і 1878 г.г. султаны Брунеі і Сулу згадзіліся пераказаць свае правы да Паўночнага Барнео брытанскаму сіндыкату, заснаванаму Альфрэдам Дэнтам і баронам Дэ-Овэрбек. Султан Сулу сцвердзіў (1878 г.):

«Ад нашага ўласнага імя, ад імя нашых спадчыннікаў і наследнікаў (гэтую каралеўскую форму падыктавалі яму мусіць англічане — Ул. Л.) ...пераказваем і аддаем... барону Дэ-Овэрбек і Альфрэду Дэнту... а таксама іх спадчыннікам і супольнікам назаўсёды ўсе правы і ўсю ўладу, якую маем над належачымі да нас тэрыторыямі і землямі на востраве Барнео... і астравах, размешчаных радыусам у 3 марскія мілі ад яго берагоў...»

За гэтую вялікадушнасць султан і яго спадчыннікі мелі атрымліваць штогод 5 тыс. малайскіх долараў.

Пазней, у 1903 г., султан пацвердзіў гэты дакумент, за што англічане дадалі яму яшчэ 300 малайскіх долараў у год.

На аснове ўсіх гэтых фактаў і дакументаў сёняшнія дамаганні Філіпін з праўнага пункту гледжання павінны здавацца неабгрунтаванымі. Так, аднак філіпінцы маюць другія аргументы. — Султан, — гавораць яны, — не меў права распараджацца лёсам гэтай тэрыторыі. А калі б нават і меў такія правы, дык намерваўся толькі здаць у арэнду, а не аддаць гэты востраў англічанам. У гэтым месяцы філіпінцы абмяркоўваюць, што значыць іх слова «пад'як», якое англічане пераклалі на «аддаць», а не на «здаць у арэнду». Пакінем, аднак, гэтыя моўныя кручкі, калі маем у руках асноўны закід, што султан не меў права аддаваць камусьці Паўночнае Барнео. — Чаму ж? — спытаемся. Дык вось таму, што ўжо тады, у 1878 г., незалежная ўлада над гэтай тэрыторыяй не была ў руках султана, а належала да Іспаніі. Ужо ў 1836 — 1851 гг. папярэднік тагачаснага султана заключыў, здаецца, шмат дагавораў з Іспаніяй, якія фактычна аддавалі ёй уладу над Барнео. Інакш кажучы, малодшы султан аддаў англічанам тое, што не было ўжо яго ўласнасцю; зусім так як варшаўскі Антэк, які прадаваў селяніну трамвай.

Дык з гэтага ўсяго вынікае, што ў спрэчкі аб Паўночнае Барнео павінна таксама ўключыцца і Іспанія. А калі гэтага не зробіць, дык не толькі таму, што мае зараз шматлікія ўнутраныя турботы; вось Вялікабрытанія, даведаўшыся аб старых дагаворах, аддала Іспаніі ў форме кампенсата некалькі астравоў у архіпелагу Сулу, зразумела, найменшых і найбольш бедных.

Цэлай гэтай гісторыяй цікавяцца таксама і Злучаныя Штаты. Вядома ж, што ў 1898 г. ЗША афіцыяльна заступілі Іспанію ў яе каланіяльнай «апецы» над Філіпінамі. ЗША ужо тады прызналі правы Вялікабрытаніі да Паўночнага Барнео. Аднак амерыканская «апека» закончылася, прынамсі фармальна, у 1946 г., калі Філіпіны здабылі незалежнасць. Сёння гэтыя незалежныя Філіпіны карыстаюцца падтрымкай амерыканцаў, адзначаюць, што свабодны ўрад не можа быць звязаны дагаворамі, накінутымі каланіяльнымі ўладамі. Выступаючы ў ролі «абаронцаў свабоды», амерыканцы падтрымоўваюць гэты тэзіс, хаця па сутнасці разыходзіцца ім толькі аб умацаванне ўласных уплываў на Філіпінах і наогул на Далёкім Усходзе. Нічога тады дзіўнага, што Вялікабрытанія выступае як абаронца пагадненняў, якія павінны захоўваць адвечную, незалежную ад гісторыі сілу.

Як бачым, кожны бароніцца як можа, хаця ніхто не спытаў у народа Барнео, што ён сам думае аб сваім лёсе.

Ул. Лазінскі

# Усеагульная забастоўка лясных рабочых у Белавежскай пушчы 3)

**МАБІЛІЗАЦЫЯ СІЛ**

Барыс Нікіцюк

Пад уплывам аб'ектыўных фактараў (крызісу) і палітычна - арганізацыйнай працы камуністаў узрастае грамадская і палітычная актыўнасць лясных рабочых. Крысталізацыя думкі аб неабходнасці забастовачнай барацьбы, каб прымусіць Дырэкцыю адмяніць зніжэнне зарплаты, прапагандаваная КПЗБ усё больш знаходзіць падтрымку ляснога пралетарыяту, асабліва пасля пераможных выступленняў рабочых лесапілкі ў Гайнаўцы і ў Белавежы ў месяцах лютым і сакавіку.

КЦ КПЗБ у чэрвеньскім звароце «Да ўсіх лесапільных рабочых і лясных рабочых Гайнаўкі, Белавежы і Нурца» заклікала да арганізавання рабоча - сялянскіх дэманстрацый, забастовак пад лозунгам супраць фашысцкаму закону аб беспрацоўі, аб зніжэнні зарплаты, аб скарачэнні штатаў, за хлеб і працу, за стварэнне левай апазіцыі ў прафсаюзным руху. Партыя мабілізавала лясных рабочых да салідарнага супрацьстаўлення нявольніцкай эксплуатацыі шляхам барацьбы. Аднак поспех у правядзенні гэтай кампаніі быў залежны ад актыўнага ўдзелу КПЗБ, КСМЗБ і іншых левых арганізацый. Але партыя ў гэты час перажывала сур'ёзныя цяжкасці, рады партыі радзелі ў сувязі з арыштамі яе дзеячоў у 1931 і 1932 гадах. Часткова ўдалося адбудаваць арганізацыйную сетку, аднак адчуваўся недахоп у радах партыі здольных актывістаў.

У палове 1932 г. паклікана Гарадскі камітэт КПЗБ у Гайнаўцы (сакратаром быў А. Бялэк), палепшылася сітуацыя ў Раённым камітэце ў Навасадах каля Гайнаўкі (кіравалі ім Марыя Галёнка і Ян Вэрэмюк) і ў Белавежы (сакратаром была Вольга Габец). Пушчанская тэрыторыя ахоплівала сваімі палітычнымі ўплывамі Раённыя камітэты ў Кляшчэлях, Ваўкавыску, Павлах і Пружанах. Пасрэдна або беспасрэдна ў працуючым у лесе асяроддзі палітычную работу праводзіла каля 25 ячэек КПЗБ. Члены складаліся перад усім з рабочых сялянскага паходжання. Меншы ўплыў мела партыя ў асяроддзі беззямельных лясных рабочых.

Шматлікай партыяй на гэтай тэрыторыі была Польская сацыялістычная партыя. Сядзіба яе павятовых улад знаходзілася ў Бельску Падляшскім, якія палітычна ўздзейнічалі на рабочых пры дапамозе камітэтаў у Гайнаўцы, Белавежы, Чарлёнцы, Будах, Пашуцкіх Будах і Грудках.

У гэтай партыі перавагу мела лева-адзінафрантовая плынь, асабліва вельмі выразна адзначылася ў 1933 годзе. Прадстаўнікамі яе былі: Эдуард Грыневіч — сакратар Рабочага павятовага камітэта ППС, Ян Патэр — сакратар Камітэта ППС у Гайнаўцы і члены Сікінгер, Антон Бурабаш, Лазьны ў Белавежы, Баляслаў Цэлей у Будах, Францішак Вітчак і Антон Тапаровіч у Чарлёнцы. Іх ідэйным правадыром быў пасол на сейм — Станіслаў Дзібуа.

Побач нерашучых былі дзеячы ППС з выразным права - нацыяналістычным аблічам. Прадстаўніком апошніх быў дэмагог Пасяк, член ППС у Белавежы. Найбольш моцны ўплыў мела ППС у лясных рабочых асяроддзях, але амаль што не мела ніякага ўплыву ў сялянскім асяроддзі.

Найбольш масавай арганізацыяй рабочых быў Класавы прафесіянальны саюз рабочых драўлянай прамысловасці. Нешматлікі матэрыял дазваляе толькі арыенціровачна акрэсліць, што каля 500 лясных рабочых было членамі гэтага саюза. Пераважна сюды належалі беззямельныя рабочыя. Саюзам кіравала Акруговае праўленне ў Гайнаўцы пры дапамозе Аддзелаў. Побач з ППС-аўцамі, беспартыйнымі быў у Акруговым праўленні член КПЗБ — Андрэй Несцярук. У Класавым саюзе скрыжоўваліся ўплывы дзвюх партый, прычым уплывы КПЗБ узраслі пад канец 1932 г. і ў пачатку 1933 г. Але рашуча перавышала палітычная пазіцыя КПЗБ у Прафсаюзным саюзе малазямельных сялян, якога гмінныя гурткі дзейнічалі ў Масеве, Ласінпы і Белавежы. На чале Праўлення аддзела побач з Э. Грыневічам былі вядомыя дзеячы КПЗБ — Навасад і Астроўскі.

Становішча матэрыялаў і дакументаў не дазваляе акрэсліць тактыкі ППС у справе абароны інтарэсаў лясных рабочых, можна толькі адлюстраваць пасрэдна паводле дакументаў ЗЗРПД. З аб'явы Аддзела праўлення п.з. «Аб працу і хлеб для рабочых у Белавежскай пушчы», якая была змешчана ў «Работніку» ад 1932 г. вынікае, што намаганні саюза ў перыяд вясны і лета 1932 г. ішлі ў напрамку аказваць націск шляхам спакойных перагавораў на лясную адміністрацыю і староства аб павышэнні зарплаты. Але ў гэтай жа аб'яве выразна адчувалася расчараванне адносна выбранай формы

(Працяг на стар. 4)



**БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ**



**Гольдрынгам цікавіцца гестапа**

— Вам тэрміновае заданне генерала, Гольдрынг, — сказаў Лютц. — Трэба знайсці зручнае месца для мінамётных практыкаванняў. Трэба, каб месца было закрытае. Выпрабоўваць будзем новыя запальныя міны.

Захапіўшы зброю, Генрых накіраваўся на паўночны захад ад Сан-Рэмі. Кіламетраў за пяць дарога змянілася ў трапінку, якая вывяла яго на камяністую пустэчу. Толькі з аднаго боку гэтага прыроднага палігона расло некалькі дрэў, за якімі размясціліся вінаграднікі, з другога тырчэла скала. «Якраз тое, што трэба», падумаў Генрых і рушыў далей, каб абыйсці ўсю пляцоўку. Калі ён апынуўся пад дрэвамі, да яго даляцелі галасы. Азірнуўшыся, Генрых убачыў на супрацьлеглым канцы двух цывільных французаў, якія толькі што выйшлі з-за скалы. У аднаго з іх вісеў на шыі нямецкі аўтамат. Яны ішлі ў напрамку вінаграднікаў і голасна гутарылі.

Схаваўшыся за дрэва, Генрых моцна сціснуў свой пісталет і не зводзіў вачэй з тых двух, што набліжаліся. Калі партызаны былі ад яго ўжо метраў за шэсць, ён раптам выскачыў з-за дрэва і крыкнуў:

— Олюме!

Яшчэ не сцяміўшы, што сталася, партызаны спыніліся і, убачыўшы накіраваны на іх пісталет, паднялі рукі.

— Турне ву! — загадаў Генрых.

Не апускаючы рук, партызаны павярнуліся спіною да Генрыха.

— Адзін ваш рух, і я страляю! — папярэдзіў Генрых, набліжаючыся да затрыманых. Генрых зняў з партызана пісталет і абшукаў кішэні. У аднаго знайшоў гранат, у другога — бельгійскі браўнінг.

— Апусціце рукі і ідзіце ў цень! — загадаў Генрых.

Цяпер ён мог ім прыгледзецца. Адзін меў год сорак, другі быў, хіба, аднагодкам Гольдрынга. Яго вялікія чорныя вочы глядзелі не Генрыха з нянавісцю.

— Макі? — спытаў Генрых.

— Так! — цвёрда адказаў малодшы.

— Ялопы! — з сэрцам сказаў Генрых. — Ходзіце са зброяй, а не ўмееце трымаць яе напагатове.

Партызаны пераглянуліся.

— Ідзіце да тае скалы! — загадаў Генрых. — Зброю я палажу тут. Калі я скрыюся, можаце ўзяць яе і ісці, куды вам трэба. Толькі добра запамятайце гэту навучку!

Партызаны нічога не разумелі. Нічога не зразумела і старая сялянка, якая, скрытая ў вінаградніку, сачыла за ўсёй гэтай сцэнай.

Неўзабаве Генрых дакладваў гаўптману аб цудоўнай пляцоўцы для выпрабаванняў новых мінамётаў.

— А калі адбудзецца гэтае выпрабаванне? — спытаў ён Лютца.

— На днях. Думаю, што генерал адкладваць не будзе. Тым больш, што мінамёты і міны выпрабляюцца побач.

— Ну, гэта ўжо вы, хіба, памыляецеся! У аколіцы

44 45 46

 

# СКУПЫЯ БАГАЦЕІ

**(ГУМАРЭСКА,**

Калісьці жыў у вёсцы бедны, але надзвычай ветлівы і добры селянін. Ён кожнаму ў бядзе памагаў, і слава аб ім ішла па ўсёй аколіцы.

І вось адзін багацей слухаў, слухаў пра гэтага бедняка і захацелася яму паглядзець, што гэта за чалавек. Выбраўся багацей да яго ў госці. Каб не ісці з пустымі рукамі, узяў ён з сабою старую курыцу і падарыў яе добраму селяніну. Той падзякаваў за падарунак і запрасіў госця паабедаць. Накарміў, напаіў бядняк багацея. Пайшоў багацей задаволены.

Прайшло некалькі дзён, чуе бядняк, нехта стукае ў дзверы.

— Хто там? — пытае бядняк.

— Той, хто табе курыцу прынёс.

— Вось і добра, прыйшоў упору, якраз на абед. Калі ласка, сядай за стол.

Багацей сеў і зноў наеўся дасыта.

Праз некалькі дзён чуе бядняк, зноў нехта дабіваецца ў дзверы.

— Хто гэта? — пытае бядняк.

— Я сусед таго, што курыцу табе прынёс.

— Добра. Сядай за стол.

На другі дзень прыходзіць трэці багацей і кажа:

— Я сусед таго суседа, якога сусед прынёс табе курыцу.

— Няўжо праўда? — здзіўляецца бядняк. — Ну, калі ласка, просім.

Прынёс бядняк міску гатаванай вады і запрашае багацея частавацца.

Хлебануў багацей вады і адлажыў лыжку.

— Што, прыяцель, не смакуе? — пытаецца бядняк. — Дык ведай, гатавалася яна ў тым чыгуне, у якім варылася курыца, што прынёс сусед твайго суседа.

**Ніна Ціх**

# КУР'ЁЗЫ

## »Вельмі дорага«

Толькі ў акрузе Алтоцінг (Баварыя) цяпер налічваецца 518 фашысцкіх назваў вуліц і плошчаў. «Адольф - Гітлер - штрасе», «Герман Герынг - плац» і таму падобныя назвы сустракаюцца амаль у кожным буйным населеным пункце. Мясцовыя ўлады, да якіх звярнуўся карэспандэнт «Зюддэйчэ цэйтунг», заявілі, што замена таблічак з назвамі вуліц і плошчаў не будзе зроблена, бо гэта вельмі дорага.

## Прывілея баскетбаліста

Французскі баскетбаліст П'ер Лефеўр атрымаў прывілею, якой карыстаецца толькі прэзідэнт рэспублікі. Усе французскія кінатэатры выдзелілі Лефеўру месца ў ганаровай ложы. Аднак прычына гэтага хаваецца зусім не ў бліскучых перамогах спартсмена. Справа ў тым, што рост Лефеўра — 2 метры 18 сантыметраў.



**Рацыяналізатар.**




### ХАЙ СКАЧА

Аднойчы бацька выбраўся са сваімі двума сынамі ў лес. Убачыўшы вялікага пянька, бацька разагнаўся і пераскочыў цераз яго.

Малодшы сын кажа: — Наш бацька скача, як заяц.

— Нельга так гаварыць аб бацьку, — павучае яго старэйшы. — Скача, няхай скача.

Прыслаў **Рыгор Томчук**

### НАЕЎСЯ

Спаткаліся два суседзі і завялі гутарку.

— Я, браток, у дзень пяць раз ем, — кажа адзін.

— А я, — адказвае другі, — сядаю есці адзін раз, але ем ад раніцы да вечара.

Прыслаў **Мікалай Сідорскі**

**АЛЕСЬ КУЗНЯЦОЎ**

## НАВУКА

Павучала маці Жору,
Ў шклянку капнуўшы лікёру:
«Пі, сыночак мой, куляй
І «на слёзы» не кідай».
А як Жора той падрос,
Дык расквасіў маме нос.
Піў гарэлку ён без дозы,
Не зважаў на маці слёзы.

### ЧАМУ ВЯСЁЛЫ

Маці да 5-гадовага Колі:

— Скажы, сыночак, чаму ты сёння такі вясёлы?

— Жаніцца хачу.

Прыслаў **Янка Бароўскі**

### СУМ

— Чаго плачаш, Надзя? Ці твайго кавалера ў армію забралі?

Надзя, плачучы: — Каб гэта забралі аднаго, а то ўсіх трох.

Прыслаў **Міхал Карэтка**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

Па просьбе Леанарды Гайдучэні з Веек і Галіны Сарачынскай з Валіл (Беластоцкі павет) змяшчаем папулярную савецкую песню

## ЕДУЦЬ НАВАСЁЛЫ

**Словы І. Салохінай** **Музыка Е. Радыгіна**

Родины просторы, горы и долины,
В серебро одетый зимний лес грустит.
Едут новоселы по земле целинной.
Песня молодая далеко летит
Припев:
Ой ты, зима морозная,
Ноченька яснозвездная!
Скоро ли я увижу
Мою любимую в степном краю?
Вьется дорога длинная,
Здравствуй, земля целинная,
Здравствуй, простор широкий,
Весну и молодость встречай свою!

Долго будем помнить вьюги и морозы
Эти дни и ночи нелегко забыть.
На полях бескрайних выросли совхозы,
Лишь немного грустно без тебя мне жить..
Припев.
Ты ко мне приедешь раннею весною
Молодой хозяйкой прямо в новый дом,
С голубым рассветом, тучной целиною
Трактора с тобой мы рядом поведем.
Припев.

### ЦІ ХУТКА

Аднойчы ў Бельску да аўтобуса ПКС падышла жанчына і пытае шафёра:

— Ці хутка пойдзе аўтобус у Гайнаўку?

— Як будзе добрая дарога, то пойдзе хутка, а як дрэнная, дык памалу, — адказаў шафёр.

Прыслаў **Павал Нікіцюк**




**— Рукі ўверх!**



**Без слоў.**

## ТАВАРНЫ ДОМ

З хуткасцю птушынага палёту абляцела лес вестка аб адкрыцці таварнага дома.

Захваляваліся звяры.

З аднаго боку гэта добра: без турбот купіш, што табе трэба, а з другога — дрэнна — звяры не маюць чым плаціць за пакупкі.

Думалі звяры, меркавалі і вырашылі: купіш, не купіш, а паглядзець варта. Пайшлі яны ў таварны дом. Падыходзяць да палянкі, бачаць, пасярэдзіне размясціўся рэстаран, а навокал у дуплах дрэў выстаўлены розныя тавары.

Воўк зацікавіўся штучнымі скіўцамі. З гэтакай запасной зубастай пашчай можна на старыя гады насіць ягнят. Пытае воўк, колькі каштуюць зубы.

— Усяго адну скурку з барана, — адказвае куніца — прадаўшчыца і, да таго, усміхаецца так, як да нас не ўсміхаюцца ў магазінах.

Лісіца круціцца каля акуляраў, а прадаўшчыца яе ўгаварвае:

— Купі, куманька, праз гэтае шкло ўбачыш курыцу ў тры разы большую. А цана недарагая, усяго фунт пуху.

Аблізваецца лісіца і шкадуе, што дагэтуль шмат пуху змарнавала.

Заяц цікавіцца футранымі ботамі. У іх лапам цёпла, а галоўнае, боты падбіты капыткамі баранаў. Ніякі паляўнічы не дагадаецца па слядах, куды заяц пайшоў.

Дзік захапляецца бычынымі рагамі. Прадаўшчыца ўгаварвае:

— Рогі вам на месцы прыробім. Моцны лоб з гэткімі рагамі дасць страху кожнаму.

Карацей гаворачы, пабеглі звяры шукаць сродкі для пакупак.

Вяртаючыся, кожны звер па слабасці затрымліваўся ў рэстаране. Лісіца, седзячы за столікам, абгрызвала курапатку, заяц уплятаў салатку, вожык частаваў вавёрку арэшкамі і нешта шаптаў ён на вушка, ад чаго рыжая прыгажуня сарамліва закрывалася хвосцікам, а воўк быў ужо амаль п'яны.

Афіцыянты — факстэр'еры круціліся паміж столікамі на задніх лапках, не паспяваючы абслужваць наведвальнікаў. На эстрадзе казёл, задзёршы галаву, спяваў пад акампаніямент сарны жахлівы раманс.

— Сюды! — зароў воўк. — Падавай сюды!

Факстэр'ер услужліва падсунуў меню, але воўк, не гледзячы на карту, паказаў на зайца:

— Давай мне гэтакага касапузага. І каб быў прысмажаны па-англійску, з кроўю. Ды падкінь бутэльку жалудзёвай.

— Выбачайце, — пралепятаў факстэр'ер, — у нас зайчаціны няма.

— Як няма, калі тут сядзіць бясхвосты! — ускіпеў воўк.

— Але ж гэта госць! — жахнуўся факстэр'ер.

— У глотку табе косць, не прызнаю гасцей — цягні за вушы лыпавокага! — зароў воўк і падняў такі гармідар, што сам мядзведзь выйшаў з-за буфета наводзіць парадак.

Зразумела, выйшлі звяры з рэстарана без капейкі за душою. Толькі запаслівы вожык праводзіў пад лапку вавёрачку, цягнучы мяшочак з арэшкамі.

Што ж, людзі мілыя, выбіраючыся за пакупкамі здараюцца і ў нас падобныя гісторыі. Звярам гэта прабачыць можна, а чалавеку...

Дзядзька Лявон

 